Васіль Рагаўцоў

# АДМЫСЛОЎЦЫ

вершы



Мінск, «Кнігазбор», 2007

УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)
Р 14

**Рагаўцоў В.**
Р 14 Адмыслоўцы: вершы / Васіль Рагаўцоў. — Мінск: Кнігазбор, 2007. — 32 с.
ISBN 978-985-6824-86-2.

Кніжка «Адмыслоўцы» займальная і пазнавальная. Яна можа быць выкарыстана на ўроках беларускай мовы, а таксама ў дзіцячых садках і дапаможа дзецям спасцігаць таямніцы роднага слова. Дзіцячая шчырасць і дабрыня, зычлівасць і спагада, любоў да роднага краю — асноўная тэматыка вершаў, многія з якіх пабудаваны на абыгрыванні аднолькавых або блізкіх па гучанні слоў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4 Беи)**

**ISBN 978-985-6824-86-2**



## Памочнікі

— Пагаворым сёння, дзеткі,
Што вы ўмееце рабіць?
Даглядаць у садзе кветкі,
Мыць падлогу, цацкі шыць?..

— Градку я магу паліць, —
Пахвалілася Марынка.
— А я — грубачку паліць, —
Голас падала Ірынка.

— Ну, а ты што можаш, Пеця?
— Ездзіць на веласіпедзе.
— Ну й памочнік! Проста клас! —
Засмяяўся дружна клас.





## Лялька

— Што ж ты шыеш, мая ўнучка?
— Ляльку. Вось ужо і ручкі.
Потым будуць і галоўка,
І касічкі, вочкі, броўкі…
А тады зраблю ёй ножкі —
Тупаюць няхай дарожкай!
Сшыю жоўты сарафанчык,
Каб была як адуванчык.
Назаву я лялю Юлькай —
Іменем тваім, бабулька.
Больш няма, як ты, прыгожай,
Такой мілай і харошай.





## Каб бабка не разбілася

— Я не здам наш лом на лом.
Хай стаіць ён пад акном,—
Кажа так сябрам Лявон. —
Будзе біць ім тата лёд,
Каб не слізкім быў праход
І на двор, і на гарод.
Бабка слізкага баіцца:
Можа ўпасці і разбіцца.

## Унукі

— Ту́га жыць, таму й туга́.
Бо няма здароўя.
І шчыміць мая душа, —
Жаліцца Праскоўя. —

Каб не ўнукі, што было б…
Мне яны — падмога.
Хай пашле ім шчасця Бог,
Сілачкі і змогі!



## Вецер і арол

Пытаецца ў вольнага ветра арол:
— Ці скажаш мне, браце, дзе горад Арол?
Каго не спытаю, не знае ніхто.
— Ніяк не даўмею: табе ж ён нашто?
— У горадзе, чуў я, жывуць сваякі.
— Тады, брат, ляці да ракі, да Акі.
Ды толькі жывуць там не птушкі арлы,
А людзі — арляне — народ міравы.
— О не, добры вецер, з людзьмі мне не
жыць.
Мне суджана воляй сваёй даражыць…
І ўзвіўся у неба высока арол.
У краі расійскім ёсць горад Арол.



## Заранка

Так заліваецца заранка —
Падворак песняй поўніцца.
А за ракой зара-заранка
Успыхвае напоўніцу.

## Аўсянка

Я для птушачкі аўсянкі
Кашкі навару — аўсянкі.
Вечарочкам мне аўсянка
Праспявае калыханку.





## Не забуду

«Добра, мамка, не забуду:
Я схаваюся за буду,
Калі будзе сцюжны вецер», —
Кляўся так сыночак Пеця.

## У мароз

Не бойся, дзіцятка, зімовае стылі:
Яна ж загартоўвае ўсіх.
А ручкі твае каб не мерзлі, не стылі —
Надзень рукавічкі на іх.





## Бабуля і Жэнька

— Ці ж працуе, хлопчык, лаўка?
— Не, бабулька, там абед.
Мо прыселі б, вунь і лаўка.
— Дзякуй, дзетка. Не сакрэт:
Спачываць — яно забаўка...
Часу ж вобмаль. Злёг мой дзед.
А кароўка любіць траўку.
Трэба й куркам нешта даць...
Некалі мне спачываць.
Вось табе хоць семак жменька...
А завуць як?..
— Жэня, Жэнька!..
Міг — і ён імчыць дахаты,
Такі спрытны, зухаваты.





## Касá

— Вы ўжо ведаеце, дзеткі,
Колькі слоў «каса» у нашай мове.
Ну, а зараз паспрабуйце
Скласці сказы з словамі.
— Можна нам? Мы ўжо гатовы.
— Калі ласка, Грыша.
— *Косіць каса,*
*Пакуль раса.*
— Слухаем цябе, Францішка.
— *Пясчаная каса —*
*Вузкая на рэчцы паласа.*
— Што сказаць нам хоча Міша?
— *Каса — дзявочая краса.*
— Малайцы! Цяпер запішам
Пад дыктоўку, усе разам,
Без памылак вашы сказы.



## Раман

— Ну й цікавы раман! —
Кажа хлопчык Раман.
— Што ж цікавага там? —
Запытаўся Адам.
І заціх увесь клас.
— Не чытаў яго… сам, —
Быў такі вось адказ.

## Журавель

Рыпіць у знямозе
Калодзежны журавель,
На ветры на золкім
Калее.
А ў небе ад крыку
Заходзіцца журавель:
І ў вырай ляцець
Не здалее.



## Ласка і дзеці

— Памажыце, ну, хоць трошкі!
Я ў пянёк ушчаміў ножку.
Калі ласка, калі ласка! —
Просіць міла звярок ласка.
Просьбу-кліч пачулі дзеткі,
Што на ўзлеску рвалі кветкі.
— Пацярпі яшчэ хоць трошкі —
Будзе вольнай твая ножка!
Дзеткі ўсё зрабілі ўмела.
— Зноў ты, ласка, можаш смела
Станавіцца гэтай ножкай.
— Дзякуй, дзеткі! На дарожку
Вось вам крышачку сунічак,
Сакавітых грушак-дзічак.
І прыходзьце проста ў госці!
Ах, мае вы ягамосці!
— Час канікулаў надыдзе —
І мы прыйдзем, ласка, прыйдзем!
А цяпер — пара дахаты:
Нас чакаюць мамы, таты…



## Ліпкі

Ёсць пасёлачак Ліпкі.
А вакол яго — ліпкі.
Зацвітуць — пах духмяніста-ліпкі.

І мінаецца скруха,
Як вясной — завіруха.
Толькі ў танцы пялёстачкі
Кружаць.

## Малінаўка

Стулілася ля вёсачкі Малінаўка
Сіротка-яблыня малінаўка.
Пад восень, нібы маці хросная,
Частуе дзетак і… дарослых.
А яблычкі — ружаватыя,
Салодка-кіславатыя.



## Што самае лепшае?

Ластаўчынае шчабятанне,
Вясёлкавае світанне,
Дыханне глебы,
Шчымлівы пах хлеба,
Азёры і крыніцы,
Знічкі-чараўніцы,
Гарэзлівыя дзеці…
Што лепшае
Бывае
ў свеце?





## Наша сямейка

Ста́ла Ніна ля стала́
І малюнак пачала
Маляваць алоўкам.
Гэтак спрытна, гэтак лоўка!
— Вось і лапкі, і галоўка,
І пушысты хвосцік…
Гэта мой любімы коцік.
А яшчэ я намалюю
Хатачку яму малую.
І канечне, тату, маму,
І сястрычак Кацю, Машу,
Брацікаў Грынька, Андрэйку —
Будзе ўся наша сямейка!





## Абанент і абанемент

Урок. Пісьмовае заданне.
А потым вуснае пытанне:
«Ці ж акуратны абанент,
Які ўсё забывае свой абанемент?»
— Вядома ж, не! — так кажа Аляксей. —
Ці ж пойдзеш без абанемента у басейн?
Ларыса дадае: — А ў бібліятэку?
Каб кніжку ўзяць ці пачытаць газету?
І Лена дапаўняе: — А ў тэатр?
Каб паглядзець любімы свой спектакль?
— …Ад вас я сёння проста ў захапленні.
Вы, малайцы! — сказаў Пятро Арсеневіч.
—
Запомнім, дзеці, што абанемент —
Патрэбны, важны дакумент.
Няма яго і ты — не абанент.



## У музеі этнаграфіі

— А ты што, Зміцер, скажаш пра калёсы?
— На іх вяскоўцы год калёсяць:
Салому возяць, бульбачку, авёс…
— А што вось гэта?
— Колы, вось.
— А што яшчэ ў калёсах ёсць?
— Ці можна мне? — спытаў Антось.
— Ну, калі ласка!
— Кузаў
для перавозкі грузаў.
Пятрок дадаў: — Яшчэ ў калёсах
Аглоблі ёсць і ёсць атосы.
…Ну й хлопцы! Проста адмыслоўцы!..
Нібы сапраўдныя вяскоўцы.



## І гавораць месяцы…

Чую назвы месяцаў
Роднае старонкі.
Столькі ў назвах месціцца —
Гаваркіх і звонкіх…

*Студзень* студзіць вокны, дзверы
Подыхам мяцеліц.
Завывае *люты* зверам —
Аж дрыжыць аселіца.

*Сакавік* — з гаючым сокам,
З сонечнаю ласкай.
*Красавік*… І на ўзлобках
Зацвітаюць краскі.

Луг вітае першатравы.
*Травень*… Час маёвы.
*Чэрвень* пчол выводзіць спраўна
На папас мядовы.

Хмеліць пахам размаітым
*Ліпень* — аж нясцерпна.
*Жнівень* жне шчымліва жыта
Месяцовым серпам.

Паліць *верасень* кастры
Сінню верасовай.



З павуціння тчэ *кастрычнік*
Дываны шаўковыя.

*Лістапад*… І ліст мядзяны —
Водсвет зараніцы.
*Снежань* гоіць беллю раны
Змоглае зямліцы.

…Чую назвы месяцаў
Роднае старонкі…
Колькі ў назвах месціцца —
Гаваркіх і звонкіх!





## Лодка

Пазаўчора тата мой
Лодку нашу абсмаліў.
Ён пакрыў яе смалой.
Будзем плаваць у заліў.
Тата й ручку абсмаліў.
Ручка у яго баліць.
Трэба лодку так смаліць —
Пальчыкі каб не смаліць.

## Конік

— Быццам конік, скача конік,
Крылцамі стракоча.
Толькі ж дзе падзеўся коннік?
Ну, скажы-ка, Косця!

— Ды яго і быць не можа.
Гэты ж конік… насякомае.
А жыве на лузе, пожні —
Вось што мне вядома.



## У лесе

— Мамка, што гэта за норка? —
Пацікавіўся Сярожа.
— Тут жыве, сыночак, норка —
То звярок такі прыгожы.
— Паглядзець яго мне можна?
Я цішочкам, асцярожна.
— Норка злая, як сабака.
Пакусае — будзеш плакаць.
У знаёмых на падворку
Пакажу табе я норку.
Для яе зрабілі клетку
З драцяной густою сеткай.





## Лісічкі

У лясочку, дзе узгорак,
Можа, сорак ладных норак.
Дружна там жывуць лісічкі —
Рыжаватыя сястрычкі.
А яшчэ у тым лясочку
Смачныя растуць грыбочкі
(Падабабачкі, лісічкі…),
Птушкі цінькаюць. Сінічкі.
Бабка Хіма мне сказала,
Каб да лета пачакала.
Будзе цёпленькі дзянёчак —
І мы сходзім у лясочак.
«Ой, хутчэй бы тое лета!» —
Уздыхнула цяжка Света.





## Некалі

— Некалі мне, Люська,
З табою забаўляцца.
Пара ўжо упраўляцца:
Свінка, куркі, гускі…

Пагуляй во з ляляй —
Табе не будзе й сумна.
Вярнуся — прынясу я
Люсечцы каралі.

Некалі ж мы пойдзем
З табою у лясочак
І знойдзем там грыбочкаў…
— А сабачку возьмем?

— Як жа мы без Трошкі?..
— Схадзі, упраўся, мамка!
А я з сваёю Машкай
Пагуляю трошкі.



# Бабка

— А ці можаце вы, дзеткі, растлумачыць,
Што ж у нашай мове слова «бабка» значыць?
Ніна: Ну, вядома ўсім — «бабуля» —
Маміна ці татава матуля.
Лена: То старэнькая жанчына.
Лоб і твар, і рукі — у маршчынах.
Вераніка: Страва з дранай бульбы.
Там і мяса, скваркі і цыбуля…
Ала: Грыб. Іначай — падбярозавік.
А расці ён любіць пад бярозаю.
Лёня: То кавадлачка са сталі,
Каб на ім касцы касу кляпалі.
Міша: Бабка… Гэта снапоў кучка.
Ставяць іх на полі. Для прасушкі.
— Ну й разумнікі! — сказаў настаўнік. —
За адказы ўсім «выдатна» стаўлю.



# Юшка

— Мамка, нешта ў хаце душна.
— Адчыню я зараз юшку.
— Юшку?
— Ведай, мой сыночак:
Гэта з чугуну кружочак.
Зачыняюць юшкай комін,
Каб цяплей было у доме.
А яшчэ ёсць юшка — страва.
Рыба з рознаю прыправай:
Кропам, перчыкам, цыбулькай…
Заўтра едзем да бабулькі —
Пачастуе смачнай юшкай.
Не адцягнеш і за вушкі…
— Еду! Еду заўтра ў госці! —
З радасці падскокваў Косцік.



## Калыханка

Засынай, мая заранка,
Люлі-люлі —
Засынай…
І збудзіся росным ранкам
Развясененай, як май.

Краскі ўсе даўно паснулі.
Толькі ты не спіш адна.
Засынай, мой коцік, люлі…
Люлі-люлі —
Засынай.

Хай спяваюць калыханку
Пераліўна салаўі.
Хай пільнуюць сон да ранку
Месяц з ночкаю ўдваіх.

Засынай, мая заранка,
Люлі-люлі —
Засынай…
І збудзіся росным ранкам
Развясененай, як май.



## Горка

Горка плача Ягорка:
— Я згубіў рукавічку.
— Ну, а дзе?
— Там, дзе горка…
Я катаўся з сястрычкай.
— Купім шчэ рукавічкі, —
Цешыць бабка Ягорку. —
І тады ты з сястрычкай
Пакатаешся з горкі.
— Дзякуй, бабка Хадорка! —
І ўсміхнуўся Ягорка.





## Наказ сыночку

Я наказваў свайму сыночку:
«Не хадзі, мой каток,
У лясочак!
Там калматы лясун блукае,
Ён цябе
Напужае…

Не хадзі, мой сынок,
У лясочак,
Не хадзі, любы мой галубочак!
Там жыве ліхі ваўкалака…
Ён спалохае — будзеш
Плакаць!»

Гаварыў я свайму сыночку:
«На дварэ ўжо цямрэва-ночка.
У бары сыч вушасты гукае,
Неслухмяных дзяцей
Забірае…»

І глядзеў мне сынок у вочы
Пільна-пільна насупраць ночы.
Што хацеў ён сказаць — не знаю,
Толькі вочкамі нібы спавядае:



«Там дзядок-лесавік гуляе
І на дудачцы гучна грае,
А дзяўчына-вядзьмарка ў скоках —
Ажно гойсае пад аблокі!
Весялун ваўкалак так рагоча,
Што збудзіў усіх
Сярод ночы...»

Божа мой, што за цуд,
Што за казка!
У вачах у сынулі — ласка.
Ад здзіўлення душа замірае.
Ці то ява, ці сон — не знаю.





## Скорагаворкі

Калі б мог расці тут мох,
Я надраць бы моху змог.

* * *

Петрык Пётра — як макотра,
А Рыгорка Грак — як грак.
Цік-так, цік-так,
Ці то гэтак, ці то так?





# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Рагаўцоў** Васіль Іванавіч

# Адмыслоўцы

вершы

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *К. Цвірка*
Камп'ютэрны набор *В. Рагаўцова*
Камп'ютэрная вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *Г. Вінярскі*

Падпісана да друку 14.06.2007 г. Фармат 84x108 1/32
Друк афсетны. Папера афсетная. Гарнітура Times.
Ул.-выд. 0,67 арк. Ум. друк. 1,68 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 763.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ.
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.